


## З ПЕРШАМАЕМ УСІХ ВІТАЕМ.

№ 17 (1133) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 29.IV.1979 г.

**Р. Ігнаценка**



# ПЕРШАМАЙСКІ ПАДАРУНАК

Набліжалася першамайскае свята. Дні сталі сонечныя, цёплыя. На дрэвах і кустах набрынялі пупышкі, гатовыя вось-вось лопнуць і выкінуць маленькія кволыя лісточкі. Ля шпакоўняў на бярозах каля школы весела распявалі шпакі, ім памагалі бестурботныя вераб'і. З садоў даносіўся нязмоўчны крык гракоў.

Заняткі ў той дзень у Альхоўскай школе скончыліся, але вучні не разыходзіліся дамоў — рыхтаваліся да свята. Малодшыя ўбіралі смецце, падмяталі сцежкі, пасыпалі іх жоўтым пяском. Старэйшыя ўмацоўвалі партрэты, лозунгі, развешвалі сцягі.

Быў занятак і ў Сані з Віктарам — яны ўтрамбоўвалі пясок каля параднага ўваходу ў школу. Рабілі гэта старанна, з натхненнем.

Работа блізілася да канца, калі да хлапчукоў аднекуль падышоў школьны вартаўнік дзед Калістрат.

— Няхай бы вы пасадзілі ды вырасцілі елачкі каля школы, — параіў ён, — вось гэта было б вечна і прыгожа.

— А ці прымуцца елачкі, калі іх пасадзіць цяпер? — спытаў Віктар у вартаўніка.

— Вядома. Трэба будзе толькі часцей вадой паліваць, бо яны любяць вільгаць, — уступіла ў размову настаўніца, якая выйшла са школы.

Хлопчыкі весела пераглянуліся.

— Пасадзім? — звярнуўся Саня да сяброў.

— Да свята, так?

Да свята.

Гэтую ноч Саня і Віктар спалі неспакойныя. Ім сніліся высокія зялёныя елкі. А хлапчукі, ужо будучы дарослымі людзьмі, хадзілі па школьным двары, паскрыпваючы вайсковымі рамянямі, і ўсё любаваліся прыгожымі дрэвамі.

Ранкам Саня выйшаў з дому, зірнуў на бярозкі, што раслі ўздоўж вуліцы, і не паверыў сваім вачам: дрэвы пазелянелі. Значыць, за адну ноч у прыродзе адбыліся змены. Радасць ахапіла хлопчыка. Ён схапіў каля хлява рыдлёўку і выйшаў на вуліцу.

— Куды гэта Саня Аўтухоў з рыдлёўкай пайшоў? — спытала адна суседка ў другой.

— Хто яго ведае, — адказала тая. — Яму ўсюды занятак ёсць. Хлопец працавіты. Пашка ніяк сынам не можа нахваліцца.

Саня мінуў сяло, спусціўся да ракі і сеў пад вялізным дубам. Учора яны дамовіліся сабрацца тут.

Хутка падышлі Віктар з Жорам, Сяргей, Лена і Валя. Калі ўсе былі ў зборы, Саня звярнуўся да сяброў:

— А цяпер хадземце да лесніка дзядзькі Міколы. Трэба з ім параіцца.

Неўзабаве дзеці разам з леснікам накіраваліся ў лес.

— Бачыце на пагорку ельнічак? — спытаў дзядзька Мікола.

— Бачым.

— Вось там і будзеце капаць.

— А можа ў нізінцы? — нясмела сказала Лена. — Там ялінкі зелянейшыя.

— Там нельга капаць, — растлумачыў ляснік. — Дрэўцы, перанесеныя з нізкага месца на высокае, дрэнна прыжываюцца. А ваша школа ж стаіць на ўзвышшы. Ды на ўзгорку дрэўцы загушчаны. Прарэджваць іх трэба. А капаць дрэўцы трэба так, каб на новае месца перанесці з зямлёй. Так яны лепш прыжываюцца.

Хлопчыкі і дзяўчынкі ўважліва слухалі лесніка.

— Пасадзіць дрэўца — невялікая мудрасць, — гаварыў дзядзька Мікола. — Яго даглядаць трэба. Толькі тады яно будзе расці.

Дзеці і хацелі так пасадзіць свае елачкі, каб яны абавязкова раслі, каб не было сорамна за сваю працу. Дрэўцы капалі надзвычай акуратна, стараючыся не пашкодзіць ніводнага карэньчыка. Колькі часу мінула за працай, цяжка сказаць. І вось пачуўся радасны воклiч Віктара:

— Ура-а! Мая гатова!

Услед адазваўся Жора. Потым Лена, Сяргей, Валя.

Выкапаў сваю елачку і Саня. Ды якую: стройную, густую, зялёную!

Працавалі дзеці ў гэты дзень амаль да самага вечара. А ранкам Першага мая, калі сабраліся ўсе вучні і прыйшлі настаўнікі, яны ўбачылі каля школы жывыя елачкі.

---

Эдзі Агняцвет

## Васілёк на варце



*Васілёк, на дзіва, ціхі, строгі,*
*Ён стаіць на варце ўпершыню.*
*На прасторнай плошчы Перамогі*
*Ён стаіць ля вечнага агню.*

*Перад гэтым спаў ён неспакойна,*
*Уставаў, гадзіннік правяраў.*
*У кароткіх снах ён бачыў войны,*
*На якіх ніколі не бываў...*

*І цяпер,*
*святочным майскім раннем,*
*Марш паходны чуецца здалёк,*
*Слухае з затоеным дыханнем*
*Дзевяцігадовы Васілёк.*

*Вось ідуць салдаты-ветэраны —*
*Тыя, што вярнуліся з вайны.*
*Першыя чырвоныя цюльпаны*
*На сівы граніт кладуць яны.*

*Пакланіўся нізка абеліску*
*Чалавек, што вызваляў зямлю.*
*Ён знаёмы хлопчыку з калыскі.*
*Памахаў рукою Васілю.*

*Сёння тата ў форме капітанскай,*
*Выцвітай у бойках франтавых.*
*З гордасцю маўклівао і ласкай*
*Ён глядзіць на юных вартавых.*

*Помніць тата цяжкія дарогі*
*І сваіх загінуўшых сяброў.*
*На вялікім свяце Перамогі*
*Думае аб шчасці для сыноў.*

*Плешча мора сцягаў пурпуровых,*
*Ландышаў лясных звініць паток,*
*І стаіць на варце ганаровай*
*Сын салдата — хлопчык Васілёк.*

Х. ЖЫЧКА

# ВЕНЬКА-МАРАХОД

Здавалася, увесь горад прапах чаромхай. І што прыемнае знаходзяць людзі ў гэтым дурманячым паху? З лесу нясуць у свае кватэры вялізныя букеты. Былі б кветкі людскія, а то... Быццам уся прырода — вось гэты чаромхавы венік, што прынесла ў клас Дзіна.

— Ой, любата якая!

— Знайшлі чым захапляцца, — не вытрымаў Венька.

— Ці бачылі вы?.. — пакасілася на яго Дзіна і зусім ціха дадала: — Мараход бяздушны.

Мараходам Веньку пачалі зваць з восені. Правільней сказаць, ён сам прыдумаў сабе гэтую мянушку. Выхваляўся, што скончыць восем класаў і паедзе вучыцца ў мараходку.

Яшчэ зімой, калі толькі пачалася другая палова года, Венька адчуў, што яго мара пра мараходку выплывае з-пад ног: гадавыя адзнакі па асноўных прадметах не падымуцца вышэй тройкі. З такімі ведамі не варта і заяву падаваць.

Ён цвёрда вырашыў скончыць сярэднюю школу і па ўсіх правілах паступіць у ваенна-марское вучылішча, каб стаць сапраўдным баявым маракам. Няхай тады пазайздросціць Міша Цвыркун! Вядома, нікому пра сваю мару Венька больш не расказваў. Каб не сустракацца з аднакласнікамі, вырашыў з'ехаць на ўсё лета ў вёску, да дзядзькі Апанаса.

Дзядзька Апанас працуе дарожным майстрам і жыве не ў самой вёсцы, а ў асобнай хаце каля шашы, кіламетры за два ад вёскі. І лес блізка, адразу за агародчыкам.

Першыя два дні Венька блукаў па лесе, выглядаў сунічныя мясціны. Ягад яшчэ не было, але яны вось-вось паспеюць. І тады Венька возьме за руку шасцігадовую стрыечную сястрычку Нюрку, павядзе ў лес, разам з ёй будзе збіраць пахкія, чырвоныя суніцы.

На трэці дзень пасля снедання дзядзька Апанас падаў Веньку старыя штаны і аблезлую вайсковую кашулю.

— Апранай, — коратка загадаў ён. — Паможаш мне крыху.

— А што рабіць?

— Там пабачыш, — адказаў дзядзька.

Штаны былі велікаватыя. Давялося падкасаць калашыны, каб не цягнуліся па зямлі.

З-пад паветкі дзядзька Апанас загарнуў у анучку некалькі ладных каўрыжак крэйды, разбіў іх абухом і высыпаў парашок у старое вядро. З-пад страхі выцягнуў рагожавы пэндзаль, насадзіў яго на палку, узяў яшчэ адно вядро, а пэндзаль уручыў Веньку.

— Маляром будзеш.

Па абочыне шашы яны прыйшлі да масціка цераз якуюсьці ні то рачулку, ні канаву. Яна была зусім сухая, і Венька ніяк не мог зразумець, для чаго тут зрабілі такі высокі насып, пабудавалі мост. Дзядзька нібы падслухаў яго думкі, растлумачыў:

— Самае небяспечнае месца на маім участку. Не глядзі, што рачулка мёртвая. Вясной тут збіраецца цэлае мора вады. Яна і цяпер ёсць, ды схавалася ў траву.

Ён лёгка збег па адхону, паклікаў Веньку:

— Хадзі сюды, паглядзі.

Высока падымаючы босыя ногі, Венька падышоў да дзядзькі. Той расхінуў высокую траву, і Венька ўбачыў круглую яму, поўную вады.

— Крынічка тут б'е, — сказаў дзядзька і зачарпнуў вядро вады.

Яны зноў падняліся на насып. Дзядзька пераліў ваду ў тое вядро, дзе была крэйда, размяшаў палкай, памачыў у раствор пэн-



дзаль і паказаў, як бяліць цэментавыя слупкі, што стаялі каля дарогі.

— Іх сорак штук. На два дні табе хопіць.

Венька з крыўдай у голасе адказаў:

— Што я — маленькі?! Да абеду зраблю.

— Паспрабуй, — усміхнуўся дзядзька і пайшоў далей па шашы.

Венька дарэмна выхваляўся, што да абеду пабеліць усе слупкі. У яго хутка стамілася правая рука, а левай ніяк не мог прылаўчыцца — не паспяваў данесці пэндзаль да слупка, як раствор сцякаў на траву.

Па шашы з прысвістам прабягалі машыны. Кожны раз Венька ўздрыгваў, баяўся, каб машына не зачапіла яго.

Калі ён закончыў бяліць дзявяты слупок, непадалёк ад яго спыніўся грузавік.

— Гэй, майстар! — гукнуў вадзіцель і высунуўся з кабіны.

Венька падышоў бліжэй. Вадзіцель здзіўлена зірнуў на яго, пачухаў пераноссе.

— Дык гэта ж не Апанас! Хто ж ты такі?

— Я?.. Я... Венька-мараход.

— Ясна, — вадзіцель зрабіў сур'ёзны выгляд, а ў позірку яго была лагодная ўсмешка. — Скажы мне, Венька, дзе тут можна ваду знайсці?

— Піць?

— Ага, піць, толькі не мне, а машыне.

Венька ўзяў сваё вядро, дзе асталося яшчэ крыху вады, паднёс да вадзіцеля.

— Такая добра?

— Пойдзе! — узрадаваўся шафёр. — Паказвай.

Яны набралі вады — вадзіцель у брызентавае вядро, Венька ў сваё — і панеслі да машыны.

— Выручыў ты мяне, браце, — падзякаваў вадзіцель, калі напоўніў радыятар і зачыніў капот машыны. — І за гэта малайчына, — ён паказаў на пабеленыя слупкі. — Добрую справу робіш. Тут паварот ледзь прыкметны, вечарам таго і глядзі, каб пад адхон не загрымець. А цяпер будзе далёка бачна. Ну, бывай! Жадаю табе паступіць у мараходку! — і па-мужчынску моцна пацiснуў Веньку руку.

Машына даўно знікла за паваротам, а Венька ўсё стаяў і глядзеў ёй услед. Ці ад таго, што перадыхнуў, ці ад цёплых слоў вадзіцеля Веньку працавалася весялей. Было прыемна, што робіць ён карысную справу.

 ПАГЛЫБЛЯЙ  СВАЕ ВЕДЫ 

## АЛІМПІЯДА — 80

Так вобразна называюць XXII алімпійскія гульні, якія адбудуцца ў 1980 годзе ў Маскве. Алімпіяда-80 — гэта грандыёзнае свята спорту і міру, дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі.

Алімпіяда-80 — гэта каля 12 тысяч спартсменаў і афіцыяльных асоб (кіраўнікоў груп, трэнераў, лекараў і г.д.), больш чым з 100 краін, спаборніцтвы па 21 відзе спорту на арэнах Масквы, а таксама Таліна, Ленінграда, Кіева і Мінска, сустрэчы сусветных дзеячоў спорту, 7,4 тысячы прадстаўнікоў прэсы і радыё.

У Маскву на алімпіяду прыедзе больш сотні тысяч турыстаў. Пад Масквой аддадзены будзе ў карыстанне міжнародны маладзёжны лагер для 2,5 тысяч хлопцаў і дзяўчат. Наглядаць з трыбун будзе каля 500 тысяч балельшчыкаў, а ля экранаў тэлевізараў — мільёны гледачоў.

Алімпіяда-80 — гэта фестываль мастацтва і народнай творчасці, тэатральныя прэм'еры і кінапрэм'еры, канцэрты і эстрадныя выступленні, міжнародныя выстаўкі і конкурсы.

Якой будзе праграма алімпійскіх гульняў?

На I Алімпіядзе, якая адбылася ў 1896 годзе ў Афінах, было дзевяць відаў спорту: класічная барацьба, велагонкі, гімнастыка, лёгкая атлетыка, плаванне, стральба з армейскай вінтоўкі, рэвальвера і пісталета, тэніс, цяжкая атлетыка і фехтаванне.

На трох наступных Алімпійскіх гульнях уключаюцца акадэмічная грэбля, стэндавая стральба, конны спорт, стральба з лука, парусны спорт, воднае пола, скачкі ў ваду, бокс, хакей на траве, фігурнае катанне на каньках. Паявіліся і тут жа зніклі рэгбі, крыкет, пола, ракет, гольф і некаторыя вузка нацыянальныя гульні.

У 1900 годзе на Алімпійскіх гульнях упершыню выступаюць жанчыны — у спаборніцтвах па тэнісе і гольфе, потым яны ўдзельнічаюць у спаборніцтвах у стральбе з лука, фігурнаму катанню на каньках. Паступова жанчыны ўсё больш месца заваёўваюць „пад алімпійскім сонцам".

З 1976 года ў праграму гульняў былі ўключаны спаборніцтвы жанчын па баскетболу, ручному мячу і акадэмічнай грэблі. На Алімпіядзе-80 яны выступяць і ў травяным хакеі.

Хацелі б вярнуцца на алімпійскія стадыёны тэнісісты, бейсбалісты, бадмінгтаністы. Але Алімпійская хартыя гаворыць, што „У алімпійскую праграму могуць быць уключаны толькі тыя віды спорту, якія распаўсюджаны шырока не менш чым у сарака краінах трох кантынентаў... З жаночых відаў спорту могуць быць уключаны толькі такія, якія шырока распаўсюджаны ў 25 краінах двух кантынентаў".

ГУЛЬНІ

## СУСТРЭЧНАЯ ЭСТАФЕТА

Каманды выстройваюцца ў сустрэчных групах, як паказана на малюнку. Дыстанцыя паміж камандамі можа быць ад 15 да 25 метраў. У пярэдняга іграка першай падгрупы ў руках знаходзіцца гімнастычная палка. Па сігналу ён бяжыць да ігракоў другой падгрупы сваёй каманды. Дабегшы да першага іграка, перадае яму свабодны канец палкі, і яны праносяць палку пад нагамі ігракоў другой падгрупы, якія павінны падскочыць так, каб не зачапіць палку. Калі ў другой падгрупе скачок выканае апошні ўдзельнік, палка застаецца ў руках першага іграка другой падгрупы, які бяжыць з палкай у першую падгрупу сваёй каманды. Ігрок жа першай падгрупы, які прынёс палку, становіцца ў канцы калоны другой падгрупы. І так бег са скачкамі працягваецца да тае пары, пакуль падгрупы не памяняюцца месцамі. Каманда, якая закончыць эстафету першай, атрымлівае два ачкі, а каманда, што закончыла эстафету другой, — 1 ачко. Гульня праводзіцца 5-7 разоў. Перамагае каманда, якая набрала большую суму ачкоў.




## Пазнаёмімся

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Гагарына, 38, кв. 1. Сяргей Зыкаў, вучань 4 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Палявая, 44. Юра Саўко, вучань 4 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Гагарына, 121, кв. 1. Коля Галавач, вучань 4 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Загарадная, 19-А, кв. 1. Барыс Мушынскі, вучань 4 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Савецкая, 40, кв. 4. Ігар Семчанка, вучань 4 класа.

## БАРАЦЬБА ЗА ДАЛЬНІ АДСКОК

Абедзве каманды выстройваюцца ў калону па аднаму, тварам да баскетбольнага шчыта. У першых ігракоў каманды па тры тэнісныя мячы. Па камандзе кіраўніка ігракі павінны выканаць па аднаму моцнаму кідку ў шчыт так, каб мяч адскочыў ад шчыта як мага далей. За дальні адскок удзельнік атрымлівае адно ачко. Выканаўшы тры кідкі, кожны ўдзельнік ідзе ў канец сваёй калоны. Перамагае каманда, якая набярэ большую суму ачкоў. Гульня праводзіцца 5-7 разоў.




**Расфарбуй малюнак каляровымі алоўкамі.**

Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 **Białystok, ul. Wesołowskiego** 1.